


# Веcтi й Паведамленьнi

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 10(692)**
**Кастрычнік 2023 г.**


# Прэзэнтацыя кнігі Алеся Бяляцкага

У нядзелю, 1 кастрычніка 2023 году, у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Кўіньсе адбылася сустрэча са старшынёй Беларускага ПЭН-цэнтру Тацьцянай Нядбай і прэзэнтацыя аўтабіяграфічнай кнігі Алеся Бяляцкага, праваабаронцы, літаратара і ляўрэата Нобелеўскай Прэміі Міру 2022 году.

Напачатку сустрэчы прэзэнтоўца сп-ня Тацьцяна Нядбай коратка распавяла пра сябе і пра справу збору сродкаў для палітзьняволеных, якая ажыцьцяўляецца праз продаж кнігі Алеся Бяляцкага. Сп-ня Нядбай таксама распавяла пра дзейнасьць Беларускага ПЭН-цэнтру і Правахоўнага Цэнтру “Вясна”. Яны былі вымушаныя ў выніку рэпрэсіяў выехаць зь Беларусі і заснаваць свае новыя пляцоўкі на выгнаньні ў Варшаве. Відавочна, што цяпер рэжым Лукашэнкі імкнецца выкараніць кожную праяву апазыцыйнасьці й нязгоды, зачыненыя сотні недзяржаўных установаў, праз суд зьліквідаваныя палітычныя партыі, такія як КХП-БНФ, БНФ, БСДГ і шэраг іншых. Зьнішчаныя і змушаныя перайсьці ў замежны сеціўны фармат незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Але беларускі народ не здаецца. Беларусы, што выехалі за межы Бацькаўшчыны, працягваюць змаганьне праз лучнасьць і арганізацыю беларускіх суполак, праз збор сродкаў на дапамогу палітзьняволеным, іх сем’ям, а таксама тым, хто пацярпеў ад рэпрэсіяў, страціў працу, апынуўся без сродкаў існаваньня.

Затым сп-ня Нядбай распавяла пра свайго калегу і паплечніка Алеся Бяляцкага. Ён зьяўляецца адным з заснавальнікаў і кіраўніком Праваабарончага Цэнтру “Вясна”, які быў заснаваны як нязўрадавая праваабарончая арганізацыя ў 1996 годзе і спачатку меў назву “Вясна-96”. Арганізацыя была афіцыйна зарэгістраваная ў Беларусі, але ў 2003 годзе за ўдзел у назіраньні за мясцовымі выбарамі беспадстаўна пазбаўленая рэгістрацыі. Затым “Вясьне” шматкроць адмаўлялі ў рэгістрацыі па надуманых падставах. Нягледзячы на гэта, арганізацыя да нядаўняга часу працягвала сваю дзейнасьць у Беларусі па абароне правоў асобы і дапамозе людзям, пацярпеым ад перасьледу і рэпрэсіяў. За гэта Міністэрства ўнутраных справаў РБ абвесьціла “Вясну” экстрэмісцім фармаваньнем. “Вясна” зьяўляецца сябрам FIDH (Міжнароднай Федэрацыі за Правы Чалавека), ENEMO (Міжнароднага аб’яднаньня па арганізацыі назіраньня за выбарамі), Беларускага Дому Правоў Чалавека імя Барыса Звозскава і шэрагу іншых арганізацыяў.

Прамоўца затым перайшла да асобы Алеся Бяляцкага і ахарактарызавала яго як надзвычай адукаванага, мяккага, далікатнага чалавека. Але за гэтымі рысамі стаіць моцны характар і жалезная воля, адданасьць прынцыповай пазыцыі й сваёй Бацькаўшчыне. Алесь Бяляцкі скончыў Гомельскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці філёляг, працаваў настаўнікам, служыў у войску, браў удзел у беларускім адраджэнскім руху, быў дырэктарам Літаратурнага Музэю Максама Багдановіча, зьяўляецца заснавальнікам Праваабарончага Цэнтру “Вясна”, літаратарам і літаратуразнаўцам. У 2011 годзе, як старшыня рады “Вясны”, быў арыштаваны, адседзеў 3 гады, у тым ліку ў выніку таго, што польскія й летувіскія ўлады ў адказ на запыт уладаў Беларусі перадалі банкавую інфармацыю і крыніцы фінансаваньня беларускіх апазыцыйных арганізацыяў, у тым ліку “Вясны” – і рэжыму Лукашэнкі лягчэй было сфабрыкаваць справу. Выйшаўшы на волю, ён не спыніў барацьбы за правы асобы, шмат разоў выклікаўся на допыты, затрымліваўся. У ліпені 2021 году ён быў зноў арыштаваны і ў кастрычніку стаў ляўрэатам Нобелеўскай Прэміі Міру. Затым ў сакавіку 2023 году ён быў асуджаны па абвінавачаньнях у кантрабаньдзе і “фінансаваньні групы, што актыўна парушае грамадзкі парадак”. Прамоўца адзначыла, што Алесь Бяляцкі, як і Алесь Пушкін, сьведама вярнуўся ў краіну перад арыштам, хоць ведаў пра небясьпеку, што пагражала яму.

Затым сп-ня Тацьцяна Нядбай прэзэнтавала кнігу “Алесь Бяляцкі” – біяграфію выбітнага праваабаронцы й літаратара. Кніга выйшла ў Варшаве ў выдавецтве “Полацкія лябірынты”, яна складаецца з мэмуараў і публікацыяў Алеся Бяляцкага. Тацьцяна коратка распавяла перадгісторыю стварэньня кнігі, што яна выйшла пасьля таго, як Алесю была прысуджаная Нобелеўская Прэмія Міру. Затым яна чытала ўрыўкі з кнігі, спынялася на тым, як пачынаўся ягоны шлях да беларушчыны, на пэрыядзе станаўленьня Алеся як беларускага патрыёта, пра ягоную працу праваабаронцы. Яна адзначыла, што Праваабарончы Цэнтар “Вясна” пачынаў сваю працу на базе Музэя Багдановіча, яшчэ раней там вы-




*заканчэньне на бачыне 4*

# Сустрэча са Сьвятланай Ціханоўскай

Учацьвер, 21 верасьня 2023 году, на Мангэтане адбылася сустрэча беларускай грамады зь беларускай палітычная дзяячкай, кандыдатам у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах 2020 г. і старшынёй Каардынацыйнай Рады Беларусі па пераадоленьні палітычнага крызісу сп-няй Сьвятланай Ціханоўскай. Яна наведала Нью-Ёрк для ўдзелу ў Генэральнай Асамблеі ААН, і ў той дзень мела сустрэчы з шэрагам лідараў і міністраў замежных справаў краінаў Вольнага Сьвету.

Сп-ня Ціханоўская выйшла да прадстаўнікоў беларускай грамады, што сабраліся на Гамаршэльд-Пляза недалёку ад штаб-кватэры ААН на Першай авэню. Яна прывітала прысутных і сказала, што не рыхтавала адмысловай прамовы, але ёй прыемна бачыць суайчыньнікаў, адчуваць іх цікавасьць і падтрымку. Былі плённыя сустрэчы з прадстаўнікамі ААН і ўрадаў шэрагу заходніх краінаў, яны вельмі прыязна настаўленыя да беларускай апазыцыі й наагул можна сказаць, што дасягнутыя значныя посьпехі. Яна падзякавала ўсім, хто сабраўся падтрымаць, і прапанавала зрабіць гутарку больш нефармальнай, каб людзі расказалі, што робяць і як жывуць цяпер у ЗША.

У адказ выступіў прадстаўнік Філядэльфіі сп. Глеб Блэкавіч, ён распавёў пра працу, імпрэзы і пляны, якімі занятыя беларусы ў Філядэльфіі. Са свайго боку пра тое, што робіцца ў Нью-Ёрку распавёў сябра управы БАЗА сп. Міхась Чаропка. Затым ён адзначыў, што лічыць сваёй задачай спрыяць ліквідацыі тых бар'ераў, якія дасюль яшчэ існуюць паміж беларускімі арганізацыямі ў сьвеце. "Мы робім адну справу і мусім быць разам". Ён падкрэсьліў, што "калі раней была нейкая атамізацыя, дык цяпер мы імкнемся гэта пераадольваць, сыходзіцца разам". Сп. Чаропка адзначыў, што ў БАЗА і ў Асацыяцыі Беларусаў у Амэрыцы (АБА) наладзіліся добрыя кантакты й адносіны зь белрускімі арганізацыямі ў Філядэльфіі, Чыкага, Бостане, Каліфорніі. "Трэба выступаць адзіным фронтам, аб'яднанай, суцэльнай беларускай дыяспарай." Беларускія аграніцацыі ў Амэрыцы актыўна бяруць удзел у зборы сродкаў для пацярпелых ад рэпрэсіяў, для беларускіх ваяроў, што абараняюць Украіну. "Хацелася б, каб беларускія масавыя сродкі ў Эўропе лепш інфармавалі пра беларусаў у Амэрыцы, каб мы больш ведалі адзін пра аднаго, падтрымлівалі й каардынавалі супольныя акцыі." "Тут быў Зьміцер Лукашук, рабіў імпрэзы, сустрэчы, але інфармацыя пра тое была мінімальная. І вось такая просьба да вас, каб мэдыі зьвярнулі на гэта ўвагу і пашыралі па магчымасьці інфармацыю пра нас". Сп-ня Ціханоўская паабяцала ўзяць гэта пад увагу і перадаць просьбу тым мэдыям, зь якімі кантактуе.

Затым сп-ня Ціханоўская зьвярнулася да грамады, ці ёсьць у іх пытаньні, што яна з задавальненьнем адкажа. Першае пытаньне было пра тое, якую дапамогу офіс Ціханоўскай можа аказаць, калі беларускія ўлады спынілі консульскія паслугі для беларусаў за мяжой. Сп-ня Ціханоўская сказала, што акурат цяпер офіс займаецца падрыхтоўкай пашпарту для беларусаў на выгнаньні. Гэта будзе дакумэнт, які прызнаюць асноўныя краіны, і як раз пра гэта ў тым ліку вяліся размовы з шэрагам урадаў і функцыянэрамі ААН. "Гэты дакумэнт мусіць адпавядаць усім нормам і стандартам міжнароднага дакумэнту, і што носьбіт яго пад міжнароднай абаронай". Быў зроблены пошук, дасьледваньне варыянтаў і цяпер падрыхтаваны праект для вырабу пробнай партыі, якую трэба будзе ў некалькіх асобніках разаслаць на экспэртызу і таксама ва ўсе ўрады краінаў, дзе могуць жыць і падарожнічаць беларусы.

Для вырабу першай партыі "пашпарту дэмакратычных сілаў Беларусі" трэба сабраць дастаткова буйную суму, бо там вялікая колькасьць асобнікаў, ня можна замовіць толькі 5 або 50. Будзе аб'яўлены збор грошай на пашпарт, хоць і няма гарантыі, што ён будзе прыняты і прызнаны ўсімі краінамі. "У нас калі быў маратон збору сродкаў на палітзьняволеных, раптам узьніклі пытаньні і падазрэньні ў хцівасьці, і ад гэтага апускаюцца рукі. Вы зразумейце, што ў сьвеце такога яшчэ пакуль ніхто ня робіць. Ёсьць грамадзкі запыт, і мы выконваем яго. Узоры будзе высланыя ва ўсе ўрады, яны будуць разглядацца, падалі абгрунтаваньне, і будзе вынесены вэрдыкт".

Да гутаркі далучыўся таксма сябар кабінэту Ціханоўскай па міжнародных адносінах сп. Валер Кавалеўскі, ён адзначыў, што цяпер ва ўмовах ліквідацыі консульскіх паслугаў урады краінаў і




міжнародная супольнасьць гатовыя дапамагчы ў пытаньні прызнаньня пашпарту дэмсілаў Беларусі, і верагоднасьць таго што ён будзе прызнаны вельмі высокая. Тут, канешне, важная актыўнасьць Сьвятланы Ціханоўскай, сустрэчы, асабістыя гутаркі з заходнімі лідарамі. Нават цяпер на Генасамблеі нельга нават параўнаць узровень афіцыйных асобаў, зь якімі сустрэлася Ціханоўская, з тымі, з кім сустракалася дэлегацыя рэжыму, якую ўзначальвае міністар замежных справаў РБ Сяргей Алейнік.

Затым былі пытаньні, ці ёсьць сувязь зь Сяргеем Ціханоўскім, як наагул яна трывае ў такой сытуацыі. "Цяпер зь Сяргеем няма сувязі, лісты не даходзяць. І трэба трымацца, распавядаць дзецям, супакойваць – гэта нялёгка". Пытаньне, што рабіць, як дапамагаць Беларусі – зьвяртайцеся да сэнатараў і кангрэсмэнаў, завальвайце іх запытамі, паказвайце, што тут жывуць прадстаўнікі беларускай грамады, якія патрабуюць, каб дэмакратычнай апазыцыі аказвалася падтрымка ў вырашэньня праблемаў вяртаньня дэмакратыі ў Беларусь".

Затым удзельнікі сустрэчы сыйшліся для агульнага здымку са Сьвятланай Ціханоўскай, гучэлі лёзунгі: "Жыве Беларусь!", "Верым-можам-пераможам!", "Слава Украіне!"

**Віталь ЗАЙКА**

Беларусь - Амэрыка: лёсы землякоў

# Масей Сяднёў - паэт і празаік, грамадзкі дзеяч

Беларускі пісьменьнік і грамадзкі дзяч Масей Сяднёў нарадзіўся ў вёсцы Мокрае Клімавіцкага павету, цяпер Касьцюковіцкі раён, у сялянскай сям'і. З маленства працаваў на бацькавай гаспадарцы. Вучыўся ў пачатковай школе ў Мокрым, затым у сямігодцы ў Саматэвічах. Адзін з настаўнікаў сямігодкі І. Чэчка апавядаў на занятках пра сваю сумесную вучобу з Якубам Коласам у Нясвіжскай сэмінарыі, стымуляваў цікавасьць Масея Сяднёва да беларускай літаратуры. Затым Сяднёў, які марыў стаць паэтам, працягваў адукацыю ў Амсціслаўскім пэдтэхнікуме (1930-31), і пасьля яго сканчэньня паступіў у Менскі пэдагагічны інстытут, дзе адвучыўся 4 курсы ў 1933-1936 г. г.

Пісаў вершы, якія публікаваліся ў пэрыядычным друку і былі высока ацэненыя тагачаснымі паэтамі, напрыклад, Пятром Глебкам. У кастрычніку 1936 году Сяднёў быў арыштаваны нібыта за насьмяханьне са Сталіна падчас чытаньня "Ліста беларускага народу да вялікага Сталіна" ў час абмеркаваньня праекту сталінскай канстытуцыі. Быў зьняволены ў турме ў Менску, дзе працягваў ствараць вершы і духова падтрымліваў іншых вязьняў. Адбыў 5 год у канцлягеры на Калыме, а затым у чэрвені 1941 году быў ізноў прывезены ў Менск на перагляд справы. З пачаткам вайны здолеў вызваліцца, калі падчас эвакуацыі Менскай турмы канвой зь вязьнямі дайшоў пешкі да Чэрвеня, а там палітычныя зьняволеныя былі расстраляныя, а тым хто падаў сябе за непалітычнага ўдалося ўратавацца.

У часы нямецкай акупацыі Сяднёў жыў у бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У кастрычніку 1943 году пераехаў у Беласток, дзе працаваў у газэце "Новая Дарога", сябраваў з Хведарам Ільяшэвічам. У Беластоку падрыхтаваў зборнік вершаў "Ад сына твайго, Беларусь", які быў набраны, але наклад загінуў у Кёнігсбэргу падчас бамбаваньня, і выдаў кнігу "Ахвяры бальшавізм" (1944). Увосень 1944 году выехаў у Бэрлін, а пасьля сканчэньня вайны жыў у ДП-лягерах у амэрыканскай і ангельскай зонах акупацыі Нямеччыны, выкладаў у беларускай гімназіі ў Міхэльсдорфе. У 1950 годзе Масей Сяднёў перабраўся ў ЗША. Каля 10 гадоў адпрацаваў на мэталяапрацоўчым заводзе, затым выкладаў



расейскую мову ў Індыянскім унівэрсытэце.

З 1968 году пераехаў у Мюнхен, дзе працаваў на пасадзе галоўнага рэдактара беларускай службы Радыё "Свабода" да 1983 году. Падчас працы там ён быў крытыкаваны за русафільства ў фармаваньні праграмаў і тэматыкі перадачаў, за ўвядзеньне ва ўжываньне слова "Мінск" замест "Менск" пра назве сталіцы Беларусі

З 1984 па 1988 год выкладаў у Норвіцкім унівэрсытэце (штат Вэрмонт). Пасьля жыў у горадзе Глен-Коў (штат Нью-Ёрк).

Вершы ён пачаў пісаць яшчэ з чацьвёртае клясы ў школе. Упершыню апублікаваў творы ў 1933 годзе. Друкаваўся ў найбольшых тагачасных беларускіх газэтах і часапісах, а падчас нямецкай акупацыі ў такіх беларускіх выданьнях, як часапіс "Новы шлях", газэтах "Раніца", "Новая дарога", "Беларускі работнік" ды іншых. Выдаў кнігі паэзіі "Ў акіяне ночы", "На край сьвета", "Спадзяваньні", "Цень Янкі Купалы", "Ля ціхай брамы", "Патушаныя зоры", "Ачышчэньне агнём", "А часу больш, чым вечнасьць", а таксама раманы "Раман Корзюк", "І той дзень надыйшоў". Аўтар успамінаў пра народных песьняроў Беларусі "Юбілейныя сустрэчы (Зблізку ад Коласа і Купалы)", зьмешчаных у кнізе "Янка Купала і Якуб Колас" (Нью-Ёрк, 1982).

У раньніх вершах, напісаных яшчэ на вёсцы, апяваў родную прыроду, хараство беларускай зямлі. Вялікі цыкль вершаў Масей Сяднёў прысьвяціў перажытаму ў месцах зьняволеньня, у турмах і лягерох. Шмат твораў напісаў пра Другую сусьветную вайну. Ёсьць у Сяднёва творы і пра тугу па Бацькаўшчыне, безь якой цяжка жыць на чужыне. Асабліва пранікнёна напісаны ягоныя вершы пра маці, сёстраў, якіх вымушаны быў пакінуць у сваёй вёсцы.

Вершы М. Сяднёва вызначаюцца навізной мастацкіх сродкаў, мэтафарычнасьцю, лірызмам, арыгінальнасьцю думкі. Значнай каштоўнасьцю зьяўляецца і проза Масея Сяднёва. Раман "І той дзень надыйшоў" пра перажытае аўтарам перад вайною і ў першыя дні вайны – адзін зь лепшых твораў, напісаных у эміграцыі. Аб'ёмна, зь вялікай любоўю намаляваныя вобразы простых людзей, пададзеныя праўдзівыя карціны вясковага жыцьця. Менш, на думку крытыкаў, удаўся аўтару раман "Раман Карзюк".

Творы Сяднёва перакладаліся на ўкраінскую і польскую мовы. Сам ён перакладаў зь нямецкіх паэтаў Гётэ, Рыльке, Гёльдэрліна.

У першай палове 1990-х гадоў Масей Сяднёў шматкроць наведваў Бацькаўшчыну, а ў Менску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшлі ягоны зборнік паэзіі "Патушаныя зоры" (1992) і ўспаміны "Масеева кніга" (1994). Сяднёў даваў шмат інтэрвію ў друку ў Беларусі пра бягучыя падзеі. У кастрычніку 1992 году ў менскім Доме літаратара прайшла творчая вечарына Масея Сяднёва.

Ён быў рэабілітаваны Вярхоўным судом РБ 22 студзеня 1992 году па справе арышту і прысуду 1936 году.

Памёр Масей Сяднёў 5 лютага 2001 году, пахаваны на беларускіх могілках у горадзе Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі.

**Віталь ЗАЙКА**

# Прэзэнтацыя кнігі Алеся Бяляцкага

***заканчэньне з бачыны 1***

ходзіў пэрыёдык “Навіны БНФ”, ладзіліся шматлікія мерапрыемствы. Алесь Бяляцкі стаяў ля вытокаў нацыянальнага адраджэньня, браў удзел у суполках “Майстроўня”, “Талака”, “Тутэйшыя”, а ў 1988 годзе стаў адным з заснавальнікаў “Камітэту-58” і “Мартыралёгу Беларусі”, на адным з паседжаньняў якога быў створаны аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту (БНФ). Цяпер, калі ў няволі аказаліся тысячы барацьбітоў супраць рэжыму, калі ўлады імкнуцца зьнішчыць кожную праяву нязгоды і апазыцыі, Алесь Бяляцкі зьяўляецца прыкладам мужнасьці й ахвярнасьці, чалавекам, што даказвае – беларусы не спынілі супраціў. Сілавікі вымушаныя хаваць факты рпрэсіяў. Але страх рэжыму таксама адбіваецца і на цяперашніх 5-10 гадовых выроках за камэнтар або падабайку ў сеціве, тады як адразу пасьля падзеяў 2020 году ўдзельнікам акцыяў звычайна давалі 1-2 гады. Улады спрабуюць зьнішчыць салідарнасьць, сувязі, узаемную падтрымку беларусаў.

Кніга “Алесь Бяляцкі” – гэта аўтабіяграфія ў кантэксьце эпохі. Па ёй можна вывучаць гісторыю Беларусі і гісторыю жыцьця, каді ад расейскамоўнага хлопчыка вёў шлях у беларускія патрыёты, і як Алесь у 19 год пастанавіў карыстацца штодзённа толькі беларускай мовай. Аднойчы ён убачыў у тэлефоннай будцы надпіс “Жыве Беларусь” і паведаміў сябрам-аднадумцам: “Мы не адныя!” Усхопленыя, яны вырабілі трафарэты й расьпісалі надпісамі “Жыве Беларусь!” увесь Гомельскі парк, і хоць наткнуліся потым на патруль міліцыі, але справа абыйшлася без затрыманьня.

Прысутная на імпрэзе сп-ня Валянціна Трыгубовіч распавяла пра Алеся Бяляцкага як пра надзвычай абаяльнага чалавека. “Ён ніколі ня быў агрэсіўным, заўсёды быў разважлівым, прынцыповым. Ён быў у эпіцэнтры ўсіх важных падзеяў, але ніколі не хіліўся да экстрэмізму, нецярпімасьці, заўсёды лічыў, што іншадумства – гэта заканамерная зьява. Нажаль, гэтага часта бракуе ў нашым асяродзьдзі. Алесь быў адным з выдаўцоў першага ў найноўшы час падпольнага пэрыёдыку “Бурачок”, а потым, у часы перабудовы, абіраўся дэпутатам Менскага гарсавету. Гэта быў ужо іншы статус, і Алесь прынцыпова патрабаваў вырашэньня надзённых пытаньняў, зьвязаных з культурай, з пашырэньнем беларускай мовы. Алесь Бяляцкі быў і ёсьць адданым патрыётм Беларусі.

Затым прысутныя задавалі пытаньні да прэзэнтанткі. Сярод іх было пытаньне пра тое, ці трэба цяпер ісьці на перамовы з уладамі, калі людзей катуюць у турмах і лягерох і забіваюць – як Алеся Пушкіна і Вітольда Ашурка. Тацьцяна Нядбай адзначыла, што лягічна было б патрабаваць, каб перадумоваю перамоваў з уладамі было вызваленьне ўсіх палітзьняволеных. Але для выратаваньня жыцьця і свабоды варта, канешне, спрабаваць усё, што ў межах прынцыповага пункту гледжаньня. “Муж Паліны Шарэнды-Панасюк заклікаў на Белсаце, каб былі скарыстаныя ўсе сродкі, каб спыніць транзіт празь Беларусь – і Белсат хуценька перавёў гутарку на іншае. Гэта складаная праблема.”

Затым было пытаньне, ці зьнікла “Вясна” ў Беларусі – “не, людзі працуюць, ёсьць сілы праз якія ідзе і падтрымка палітвязьням, і збор інфармацыі пра арышты, умовы ўтрыманьня, выпадкі катаваньняў і забойстваў”.

Ці ёсьць кантакт з Алесем Бяляцкім? – “Кантакту зь ім няма ад чэрвеня месяца, яго трымаюць у ізаляцыі, лісты не даходзяць. Гэта ёсьць кшталт катаваньня. Гэтаксама ў ізаляцыі знаходзяцца Мікола Статкевіч, Максам Знак, шэраг іншых палітвязьняў.

У міжчасе з прамовай выступіў сьвятар царквы Сьв. Кірылы Тураўскага а. Васіль, які выказаў падтрымку беларусам, што змагаюцца з дыктатурай, і сказаў, што нават у запале нельга забывацца на хрысьціянскія прынцыпы й любіць людзей, нават калі яны робяць нялюдзкія ўчынкі. Трэба адасобліваць людзей ад іхных учынкаў, аналізаваць, пераконваць. Сьвятар заклікаў прысутных наведваць царкву, быць часткай яе, пераадольваць выпрабаваньні разам.

Было таксама пытаньне, чаму нельга было працаваць на эміграцыі, чаму Алесь Бяляцкі ня зьехаў, ведаючы, што яго арыштуюць і будуць судзіць. Тацьцяна Нядбай адказала, што Бяляцкі – чалавек цьвёрды і прынцыповы, і што ён ніколі не хаваўся ад небясьпекі. “Такое было ягонае рашэньне, быць з народам, з тымі, каго ён бараніў усе гэтыя гады сваёй грамадзкай дзейнасьці ў “Вясьне”.

Алесь Бяляцкі найперш прысьвяціў сваё жыцьцё беларускай культуры, і калі над ёю навісла пагроза, ён стаў рабіць тое, што мог – бараніць беларусаў, каб яны маглі стаць носьбітамі гэтай культуры. Менавіта беларуская культура стала цяпер фронтам змаганьня, зброяй супраціву. І менавіта таму для рэжыма сёньня беларуская культура і беларускасьць – такія ненавісныя і раздражняльныя. І менавіта таму мы мусім падтрымліваць і разьвіваць нашую мову і культуру, гэта і сродак, і сымболь перамогі.

Затым удзельнікі імпрэзы мелі нагоду набыць кнігу “Алесь Бяляцкі”, і ўзяць аўтограф у складальніцы сп-ні Тацьцяны Нядбай. Сродкі ад рэалізацыі кнігі йдуць на дапамогу палітвязьням і сем’ям, пацярпелым ад рэпрэсіяў.

Сустрэча адбылася пры арганізацыйнай падтрымцы Беларускай Фундацыі Крэчэўскага, каардынатара праекту Валянціны Трыгубовіч і пры інфармацыйнай падтрымцы Асацыяцыі Беларусаў у Амэрыцы.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

**С. Стрэльчанка . . . . . . . . . . .60**

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”, а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**С. Стрэльчанка . . . . . . . . . . . .30**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”, калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***“Весткі й Паведамленьні”.***
*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адраснай налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*